# ІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

# 42 ДОКУМЭНТЫ

ВЫДАНЬНЕ Ц. Б. „МАЛАДНЯКА"
МЕНСК — 1926

МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

# 42 ДОКУМЭНТЫ
# і
# ДВОЕ ЖВІРОЎСКІХ



ВЫДАНЬНЕ ЦБ МАЛАДНЯКА
МЕНСК——1926

## 1

## Анкета

Прозьвішча—*Гроцкі*
Імя—*Ігнат.*
Імя па бацьку—*Рыгораў.*
Колькі год—*27.*
Ці жанаты—*Жанаты.*
Нацыянальнасьць—*Беларус.*
Соцыяльны стан—*Селянін.*
З якога часу ў партыі—*З ліпня 1917 г.*

## 2

## Протокол

пасяджэньня №-га павятовага камітэту РКП(б) ад 14 чэрвеня 1919 г.

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| IV. Даклад Чарняўскай ячэйкі РКП. Дакладчык т. Грышчанок. Становішча ў Чарняўскай вол. небясьпечнае. Усё больш і больш пашыраецца антысавецкая агітацыя, якую вядуць тамтэйшыя контр-рэволюцыйныя элементы на чале | Організаваць у Чарняўскай воласьці рэўком. Старшынёй рэўкому паслаць т. Гроцкага. Прапанаваць павятовай надзв. камісіі |

| С л у х а л і: | Пастанавілі: |
| --- | --- |
| з сынам быўшага памешчыка Заслаўскім. Агітацыя мае частковы посьпех. Настрой некаторых вёсак, асабліва з перавагаю кулацкага жыхарства, варожы да Савецкае ўлады. Гэты самы памешчык Заслаўскі арганізаваў атрад бандытаў, з якім туляецца па лясох і адтуль робіць налёты, наганяючы непамерны спалох на жыхарства. Рабіліся спробы наладзіць у мяст. Чарняўцы пагром, але пакуль што бяз посьпеху. Мясцовыя сав. ўстановы працуюць пад пастаяннай пагрозай нападу банды Заслаўскага, якая ўсё больш і больш павялічваецца. Трэба прыняць пільныя і энэргічныя меры, каб наладзіць у Чарняўскай воласьці рэвалюцыйны парадак. | выслаць атрад па барацьбе з бандытызмам. Мясцовай ячэйцы павесьці самую шырокую агітацыю сярод сялянства. |

. . . . . . . . . .

3

## Горад N. Кацярыне Макараўне Гроцкай

Мая любая жонка!

Вось я й прыехаў. Ураз акунуўся ў гэта трывожнае напружанае паветра. Усё вакол нейкае дзіўнае, на ўсім ляжыць нібы нейкая пячатка небясьпекі, няпэўнасьці ў тым, што будзе заўтра. Імя Заслаўскага ня сходзіць з вуснаў. Аб ім складаюць цэлыя байкі. Асабліва тэрарызована яўрэйскае жыхарства мястэчка. Чакаюць пагрому. І спалох раджае нейкую панічную ўпэўненасьць, што ён будзе. Нашы хлопцы (супрацоўнікі) тож баяцца. Ня лёгка дастаецца ўзьняць іхні настрой.

А мне, Каця, дужа добра. Я пачуў сябе ў сваёй стыхіі, як кажуць. Я аджыў тутака. Прыемна памерацца сіламі. Весела! А часамі сьмешна бывае. Я табе перасылаю дзьве запіскі, якія я атрымаў зараз-жа пасьля прыезду. Пасьмейся разам са мной. Як бачыш, мой прыезд не астаўся незаўважаны. А як табе падабаецца гэтая запіска ад дзяўчыны? Праўда, вар'ятка нейкая?

Эх, Каця, як мне шкода, што цябе тут няма. Але пакуль што жыві там, бо тут небясьпечна, а ты да гэтага яшчэ не прызвычаілася. Як троху пацішае, тады прыедзеш. Пабачыш, што

гэта за пекная мясьцінка! Гэты глухі куточак па свайму хараству нагадвае той рай, аб якім ты, пэўна, чула ў дзяцінстве. Гушчарны лес, рэчка... Адным словам—усё, што трэба.

Ну, а як ты маешся там? Ня сумуеш па мне? А мо' ўжо знашла сабе ўцеху? Глядзі, бо за вушы нарву, калі што... А цяпер пацалую многа-многа раз, во...

Ну, бывай пакуль што.

17 чэрв. 19 г. *І. Гроцкі.*

4

**Старшыні рэўкому Гроцкаму**

Вітаю Вас з прыездам. Чуў пра Вас шмат чаго добрага. Вельмі прыемна мець справу з разумным чалавекам, а не з такімі дурнямі, як да гэтага часу. Але наперад кажу, што ані чорта ня выйдзе ў Вас. Адылі паспрабуйце, калі галавы, вядома, ня шкода. Спадзяюся, што хутка сустрэнемся.

*Заслаўскі.*

5

**Т. Гроцкаму**

Мне вельмі сорамна пісаць Вам, але я прывыкла заўсёды быць простай і шчырай. Вы мне ўпадабаліся з першага разу, як я Вас убачыла. Чаму—я ня ведаю. Вы мне здаліся моц-

ным, дужым мужчынам, гэроем. Я знаю, што Вы заняты важнай справай, што Вам няма часу глупствам займацца, але так хочацца мне пазнаёміцца з Вамі, што я сама першая, прашу Вас аб гэтым. Мне здаецца, што сярод працы ў Вас знойдзецца калі вольная часінка, каб аддаць яе дзяўчыне, якая Вамі вельмі цікавіцца.

*Ніна (Загорная, 17).*

P. S. З падаўцам гэтага дайце адказ. Хоць пару слоў.

6

**Загорная, 17. Ніне.**

Пару слоў? Калі ласка—тры: кіньце глупствам займацца. *Г.*

**Загад № 1**

Чарняўскага валаснога рэволюцыйнага комітэту ад 18 чэрвеня 1919 г. м. Чарняўка

З гэтага дня мяст. Чарняўка і воласьць абвяшчаецца на ваенным становішчы. Хадзьба па мястэчку пасьля 11 гадзін вечару дазваляецца толькі асобам, якія маюць належныя пропускі. Ніякіх сходаў, вечарын і інш. наладжваць без спэцыяльнага дазволу Рэўкому не дазваляецца. Катэгорычна забараняецца распаўсюджваньне ўсякіх неправерaных чутак, якія

наганяюць спалох і дэмаралізуюць жыхарства. Распаўсюджваньне такіх чутак будзе разглядацца, як крымінальнае злачынства, і вінаватыя будуць аддавацца пад суд. Просьба да ўсіх грамадзян затрымліваць на месцы асоб. якія займаюцца гэтым, і накіроўваць іх у Рэўком. Кожны селянін і рабочы павінен помніць, што толькі агульнымі, злучанымі патугамі мы здолеем зьнішчыць злачынны бандытызм і наладзіць у воласьці рэволюцыйны парадак.

*Старшыня рэўкому Гроцкі.*

8

### Ліст

Таварышу Раўкому ад селяніна вёскі Кудлатаўкі Чарняўскай воласьці Лявона Пстрычкі у собсьцьвенныя рукі очэн сакрэтна таварыш Раўком я хачу табе паведаміць, што пан у нашай вёсцы местапрабываньне маець і часта наяжджаець у нашую вёску з сваймі бандытамі к багацею нашаму Данілу і заўтрача небяспрыменна надвячоркам прыедуць і Даніла самагону нагнаў будуць частавацца толькі таварыш Раўком каб ніхто ня знаў што я табе напісаў бо я мужык бедны і мяне небяспрыменна заб'юць. Дык прыяжджайце заўтрача і забярыце гэтага пана і ўсю яго банду ў нашай вёсцы толькі таварыш раўком нікому не кажыце, што я напісаў вам аб гэтым...

9

## Протокол

экстранага пасяджэньня Чарняўскага Рэўкому ад 20 чэрвеня 1919 г.

Слухалі:

I. *Т. Гроцкі.* Зачытвае ліст ад селяніна в. Кудлатаўкі Лявона Пстрычкі і прапануе безадкладна выслаць у вёску Кудлатаўку ўзброены атрад. Т. Гроцкі зазначае, што гэта вельмі зручны выпадак, каб адразу і бяз вялікіх ахвяр распарадкавацца з бандай.

*Т. Зянькевіч.* Катэгорычна супроць такого пляну. Нельга даваць веры нейкаму селяніну, якога ніхто ня ведае. Можа тут якая пастка?

*Т. Грышчанок.* Я добра ведаю Пстрычку. Гэта бядняк, які шчыра падтрымлівае Савецкую ўладу і якому, бязумоўна, можно давяраць.

*Т. Зянькевіч.* Усё роўна ні ў якім выпадку ня трэба па-

Пастанавілі:

Зараз-жа выслаць у в. Кудлатаўку атрад па барацьбе з бандытызмам.

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| сылаць атраду. Лепш паслаць разьведчыкаў і распазнаць, як там і што, а таксама вызваць і дапрасіць гэтага Пстрычку. *Т. Гроцкі.* Марудзіць нельга. Ліст пісаны ідаць яшчэ ўчора, значыць бандыты будуць сёньня ўначы. Ні разьведаць ні дапрасіць Пстрычку мы ня справімся. Прапусьціць-жа гэты выпадак мы ня маем права, бо кожная гадзіна бавіньня дасьць нам новыя бязьвінныя ахвяры. Мы нічым не рызыкуем, бо на чале атраду Мякуш, а гэта такі чалавек, які ня зблыша ні ў якім становішчы. *Т. Зянькевіч.* . . . . . . . , . . . . . . . . . | |

10

**(У блёк-ноце Гроцкага)**

... Зянькевіч... Зянькевіч... Зянькевіч... ня трэба... нятрэба... азнаёміцца... не сьпяшацца... Дзіўны гэты Зянькевіч...

11

## Загад № 57

По асобым атрадзе камандзіра Мякуша Саўкі ад 20 чэрвеня 1919 г. м. Чарняўка.

Праз дзьве гадзіны выступаць на бандытаў. Пакуль што ні шкні. Калі хто, так вашу так, пікне хоць слова, праганю ў каршэнь ка ўсім чарцям. Глядзі мне, хлопцы, каб не падгадзілі. Не пяршыня-ж вам, чэрці лысыя.

*Камандзір Мякуш Саўка.*
*Пісар Чаклюшкін.*

12

## Горад N. Кацярыне Макараўне Гроцкай

Мая дарагая Кацечка!

Што-ж ты гэта маўчыш? Яшчэ аніводнай пісулькі не напісала. Думаеш, лёгка гэта так жыць, ня ведаючы, што там робіцца з любым пісклёнкам? Гэта-ж часамі дык так балюча, крыўдна робіцца. Хочацца злавацца на цябе, дужа-дужа злавацца. Але хіба-ж я магу злавацць, калі так моцна люблю.

Як не шанцуе нам, Каця! Толькі ажаніліся, толькі пачалі наша супольнае жыцьцё і ўраз прышлося расстацца. Нават ня было часу, каб як мае быць пазнаць адзін аднаго—блізка, глы-

бока. Ты ведаеш, Каця, на мяне часам находзіць сумненьне. Я так мала яшчэ знаю цябе. Мо' ты зусім не такая, як я цябе ўяўляў і ўяўляю? Мо' я памыліўся? Ты даруй мне, даражэнькая, але гэткія думкі часам лунаюць у маёй галаве. І як мне цяжка бывае тады, каб ты ведала. Цяжка і страшна чагосьці. Быццам баюся, каб усё тое, што я стварыў ў сваім уяўленьні, тыя мары аб таварыстве, дружбе, якія гадую я ў сэрцы, каб ўсё гэта раптам не разьляцелася, не рассыпалася попелам брудным... Ну добра. Гэта так сабе, Каця. Мабыць ад таго, што я так моцна цябе пакахаў. Хутка ўбачымся, тады добра пагутарым.

Цяпер 11 гадзін вечара. Сяджу ў Рэўкоме, чакаю вестак ад Мякуша. Ён паехаў з атрадам у адну вёску, дзе павінны быць бандыты. Ты, Каця, помніш гатага мядзьведзя Мякуша? Што гэта за любы хлапец! Колькі ў ім шчырасьці, адданасьці справе і колькі дзіцячай прастаты! А як яго армейцы любяць. Яны за ім гатовы пайсьці хоць у пекла. Эх, каб такіх больш у нас хлопцаў было!..

А як марудна паўзуць хвіліны. Як цяжка так сядзець і чакаць. Здаецца-б птушкай паляцеў туды сам. Але хлопцы ня пускаюць. І Мякуш ня любіць, каб каля яго лішнія блыталіся.

Справы нашы наогул нішто. Жыхарства бліз-

ка ўсё на нашым баку. Я кожны дзень выяжджаю ў якую-небудзь вёску—праводжу там мітынгі, гутаркі. І да мяне кожны дзень гурмай сяляне прыходзяць. Кажуць: „О, каб мы ведалі, што гэта за штука—Савецкая ўлада! А то нам вунь што казалі“... Відаць, спрытна агітавалі тут паны контр-рэволюцыянэры...

Ну, бывай мая красачка! Не забывайся, пішы. Многа-многа пішы, аб усім чысьценька. І рыхтуйся прыехаць да мяне. Я дык з шалёнай нецярплівасьцю чакаю таго дня, калі ўбачу цябе і моцна-моцна пацалую...

Бывай яшчэ раз. Пішы.

20 чэрвеня. 19 г. *Ігнась Г.*

13

**Гроцкаму**

Сволачы, сьцервы, халеры, паскуднікі... І ты разам з імі, мой любы! Прыехаў, называецца, выступіў на бандытаў. Хоць-бы на сьмех з поўчалавека. Ня толькі бандытаў, а й сьледу іхнага ані званьня. Пстрычка твой—сапраўдная пстрычка. Ну, але добра. Пабачым, што далей. Чакай мяне сёньня к вечару. Пакуль што паабнюхаю тут. А кулака, у якога меўся быць Заслаўскі, забраў і прывязу табе—рабі, што хочаш. Чуе мой нос, што тут ня ўсё чыста. Бывай! *Мякуш Саўка.*

21—VI—19 г.

в. Кудлатаўка.

14

**Чарняўскаму рэўкому**

Пачатак ня надта ўдалы. Але не зважайце на гэта. Ня траццe надзеі сустрэцца са мной, бо я маю на ўвазе зрабіць усё ад мяне залежнае, каб паблізіць гэту сустрэчу.

*Заслаўскі.*

P. S. А Пстрычку я пстрыкнуў. Хай ня лезе, куды ня просяць.

15

**Протокол**

сьледзтва па справе аб прыкрыцьці банды Заслаўскага і дапамозе яе контр-рэволюцыйнай дзейнасьці.

. . . . . . . .

Селянін в. Кудлатаўкі Чарняўскай вол., N-га павету Даніла Брудаў, 43 год, жанаты, беспартыйны, са слоў яго пад судом і сьледзтвам ня быў,—паказаў па гэтай справе наступнае:

З Заслаўскім я пазнаўся месяцы паўтары таму назад. Я тады ня знаў, хто ён і чым займаецца. Я толькі знаў, што ён сын памешчыка Заслаўскага і жыве ўтайку. Прыяжджаў ён да мяне ў сярэднім раз на тыдзень. Кожны раз з ім было чалавек 8 таварышоў. Звычай-

на яны гулялі цэлую ноч, пілі самагонку, якую мне прыходзілася дастаўляць, бо яны вымагалі гэтага. Уночы прыходзілі дзеўкі з мястэчку, відаць—гуляшчыя, і таксама з імі гулялі. Я хацеў колькі раз даказаць на іх, але баяўся, бо пагражалі забіць. У той вечар, калі прыяжджаў атрад, Заслаўскі таксама быў, але нейкі незнаёмы хлопец прынёс яму запіску, прачытаўшы якую Заслаўскі раптам сабраўся і зьнік, строга заказаўшы, каб я нікому не гаварыў аб тым, што ён быў. Больш па гэтай справе паказаць нічога ня маю.

. . . . . . . . .

16

(На платох у мястэчку й па вёсках)

**Грамадзяне!**

Два гады ўжо, як вы зносіце нячуваны прыгнёт і зьнявагу. Два гады, як вы ня можаце вольна дыхнуць, як на вашым карку сядзяць вашыя лютыя ворагі—бальшавікі і жыды. Гэта новыя паны, якія прышлі ў нашу краіну, каб забраць наша дабро, каб зьнішчыць нашу гаспадарку, каб зачыніць нашы праваслаўныя цэркви, абярнуць іх у жыдоўскія школы.

Грамадзяне! Годзе цярпець гэты зьдзек! Годзе быць паслухмянай скацінай, з якой ро-

біць усё, што хоча, няма ведама хто! Усе, каму дорага наша айчызна, хто шануе веру сваю хрысьціянскую, бярэце аружжа й прыходзьце папоўніць рады тых, хто вышаў на змаганьне за волю й жыцьцё.

Усе да нас!

Усе за аружжа!

Камандзір вольнага атраду паўстанцаў

*Заслаўскі.*

17

(З газэтнае хронікі)

**Бандыты злачынствуюць**

У раёне Чарняўскай воласьці сабралася хэўра бандытаў, на чале якой стаіць вядомы контррэвалюцыянэр сын памешчыка гэтай мясцовасьці — Заслаўскі.

Банда робіць напады на вёскі, зьніштажае ўсіх, хто мае якую-небудзь блізкасьць да Савецкай улады, не гаворачы ўжо пра комуністых, руйнуе сялянскую гаспадарку. У банду зьбіраюцца ўсе тутэйшыя рэакцыйныя элемэнты, і яна ўсё больш і больш павялічваецца, наганяючы спалох на жыхарства і пагражаючы нават мясцовым савецкім установам.

Да зьнішчэньня банды прыняты пільныя меры, але да гэтага часу напасьці на сьлед Заслаўскага не ўдалося.

18

**Протокол**

пасяджэньня Чарняўскага Рэўкому ад 25 чэрвеня 1919 г.

| Слухалі: | Пастанавілі |
| --- | --- |
| *т. Гроцкі*. Становішча ў воласьці робіцца ўсё больш і больш трывожнае. Банда расьце. Урэшце мы ня можам лічыць сябе забясьпечанымі ад нападу на валасны цэнтр. Трэба прымаць пільныя і энэргічныя меры. Пакуль што мы ня можам спадзявацца на дапамогу з павету. У нас ёсць весткі, што сталая сяліба банды ў Кудлатаўскім лесе, што паміж вёсак Кудлатаўкі й Сёмкава. Я прапаную во што:<br>1) Правесьці шырокую агітацыю сярод сялянства, каб зьнішчыць ахапіўшы ўсіх спалох і знайсьці з боку сялянства актыўную дапамогу ў змаганьні з бандытызмам. Для гэтага выслаць на вёс- | Прыняць прапозыцыі т. Гроцкага. |

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| ку нашых лепшых партыйных і савецкіх працаўнікоў. | |
| 2) Зараз-жа выслаць атрад Мякуша ў той раён, дзе па вестках знаходзіцца Заслаўскі. | |
| 3) Тэлеграфаваць у павет аб становішчы ў воласьці і прасіць вайсковае дапамогі. | |
| *т. Зянькевіч* . . . . . | |
| . . . . . . . . . . . . | |

19

**Старшыні Рэўкому Гроцкаму**

„Ня шукай мяне ў лесе шумлівым, пад зялёнаю сховай разложыстых дрэў“. Дый наогул—кінь ты, усё роўна ня зловіш. Лепш пачакай, хутка ўбачымся...

Твой шчыры вораг

*Заслаўскі.*

26-VI-19 г.

20

**т. Гроцкаму**

Я зноў пішу Вам. Помніце тую запіску ад невядомае Ніны, якую вы атрымалі, як толькі прыехалі к нам? Я знаю, Вы пасьмяяліся

толькі. Ды зрабіць іначай вы й не маглі. Пэўна, падумалі: „Во, распусьніца нейкая, на шыю чапляецца з першага дня“... Так, вядома распусьніца, бо хіба-ж іншы хто мог так зрабіць? Распусьніца, так, я гэта адкрыта кажу Вам. Як кажуць—простытутка. Ну, што-ж, доля такая... Але цяпер я ня маю замеру чапляцца на шыю Вам—не да таго цяпер Вам, дый мне таксама. Вы, пэўна, зноў будзеце сьмяяцца, калі я скажу, што хачу вас бачыць і гаварыць пра сур'ёзныя грамадзкія справы. Простытутка і грамадзкія справы... Дзіўна, сапраўды? І сьмешна? Але чаго ня бывае на сьвеце! Калі Вы захочаце са мной убачыцца, Вы пераканаецеся, што й такі чалавек, як я, можа знадабіцца ў вашай справе. Я сама ня ведаю, чаму мне захацелася гэта зрабіць. Можа ўсё тое, што перажыла я, што сьцярпела за сваё ня вельмі прыгожае жыцьцё, можа ўсё гэта раптам радзіла ўва мне злосьць і нянавісьць, якая штурхае мяне на гэта, якая прымушае ісьці да вас, далучыцца ўсёй істотай да вашых імкненьняў, да вашай работы? Можа й так? Я сама ня ведаю, што мной кіруе. Я раскажу Вам усё, як убачымся, я раскажу Вам пра ўсё жыцьцё маё, у якім Вы пэўна, знойдзеце многа цікавага. І я спадзяюся, што Вы паможаце мне разабрацца ў маёй душэўнай блытаніне, вызначыць месца маё ў жыцьці і па-

можаце мне зрабіць тое, што я надумала. Пакуль што—бывайце!

*Ніна.*

21

**У N-скі павятовы камітэт РКП(б)**

Абавязак старога сумленнага партыйца прымушае мяне апісаць вам сапраўднае становішча ў нашай Чарняўскай воласьці. Становішча гэта вельмі і вельмі небясьпечнае. Бандытызм усё расьце, пагражае неўзабаве ахапіць усю воласьць і перакінуцца за яе межы. Жыхарства траціць давер'е да Савецкае ўлады, бо бачыць, што яна нічога ня можа зрабіць, каб зьнішчыць бандытызм. Прычыны ўсяго гэтага— няўдалае, няўмелае кіраўніцтва таварыша, які стаіць на чале Рэв. камітэту. Трэба прыняць пільныя меры, бо йначай можна чакаць вялікай небясьпекі для ўсяго павету.

Сябра рэўкому

27 чэрвеня 19 г. *Зянькевіч.*

22

**Ліст**

Міламу майму мужу Саўку Ларывонаву Мякушу ад законнае супругі яго Арыны Аксэнтавай Мякушыхі.

У першых страках майго ліста сьпяшу паведаміць вас, дарагі мой муж Саўка Ларывонавіч

вонаў, што мы жывы і здаровы, чаго і вам жадаю . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .

Яшчэ кланяецца сын ваш Рыгор Саўкаў Мякушаў і ён ужо хадзіць пачынае і гаворыць „тата“ і „мама“. А жонка твайго прадсядацеля круціцца і хлапцоў водзіць, а пра яго й ня ўспомніць. І скажы яму, што яна б..... і круціцца, як апошняя шлюха . . . .
. . . . . . . . . . .

Астаюся ваша любімая супруга

*Арына Мякушыха.*

23

**(У блёк-ноце Гроцкага)**

28 черв. 19 г. Першы раз у жыцьці бяруся пісаць дзеньнік. Дзіка й неразумна. Але-ж неяк так чалавек ужо ўроджан, што, калі гора-бяда якая, калі цяжкім жыцьцё робіцца, дык хочацца, як той казаў, выліць каму-небудзь сваю душу, падзяліцца думкамі й перажываньнямі. Раней ёй пісаў, выліваў усё, раскрываў душу. А цяпер?—Мякуш ёсьць... Але ён не зразумее ўсё роўна. Не, ён надта просты для гэтага. Ен так, як жонка яго: „круціцца“, „хлопцаў водзіць“, „б.....“—і ўсё, на гэтым канец, больш ня можа быць гутаркі й думкі... А ў мяне ня выходзіць так. Мне шко-

да, што разьбіўся той пекны будынак, які я пабудаваў з сваіх мар, што запэцкаўся ў гразь той вобраз, які я стварыў у думцы сваёй, які я злучыў з яе асобай. Эх, Каця, Каця! Ці ведае яна, як цяжка мне разлучацца з тымі думкамі, марамі, якія я песьціў, гадаваў у сабе з першага дня знаёмства з ёй? Якая яна была любая, простая тады, якой блізкай, роднай здавалася! Думалася, што можна сьмела пайсьці з ёй у жыцьцё, што шчырым, верным таварышом будзе, памоцнікам... А мо' трэба было сюды яе ўзяць, каб акунуцца разам у стыхію жыцьця? Мо'-б гэта стыхія бурлівая зрадніла, зьвязала путамі таварыства?.. Але не, усё роўна. Так яшчэ лепш, што адразу выявілася. Лягчэй так усё-ткі...

Ну, годзе. Досыць папускаць лейцы, бо так дакаціцца можна чорт ведама да чаго. Час не такі, каб раставаць у блакітна-ружовай чмуце казытаючых сэрца перажываньняў. Агульная справа прымушае забыцца на асабовае, растапіць гэта асабовае ў тым шырокім, агнёвым, што гарыць, бушуе магутным уздымам, што з грукатам, з гулам варочае камні цяжкія гісторыі. І нічога няма тут такога—зусім проста. Толькі больш працаваць, так працаваць, каб часу ня было на думкі розныя. І тады на ўсё-чыста забудзешся. А калі адгукнецца

часам глыбока там недзе, у сэрцы ці яшчэ зе-небудзь,—тады зубы сашчэрыў ды йзноў за работу.

Так. Здаецца справы наладжваюцца ў нас. Жыхарства блізка што заспакоена. Сярод сялян моцнае абурэньне супроць бандытаў. Пры гэткіх абставінах можна ўраз справіцца з імі. Але сярод нашых ёсьць здрада. Адкуль-жа б ведаў Заслаўскі ўсё, што мы толькі надумаем рабіць? і што, калі спраўдзяцца мае падазрэньні? . . . . . . ,

. . . . . . . . .

А гэта... Пашлю сёньня к ёй. Хай прыдзе. Цікава. А мо' паспрабаваць замяніць тое туманнае, зыбкае, больш простым, рэальным? Мо' пашукаць у гэтай дзяўчыне спосабу пазбыцца шчымлівых успамінаў аб тэй? Кажуць што клін выганяецца клінам... . . .

. . . . . . . . .

24

**Загорная, 17. Ніне**

Тое, што Вы напісалі мне апошні раз, зацікавіла мяне і як савецкага працаўніка і проста, як чалавека. Ахвотна пабачуся з Вамі. Калі гэта Вас не компромэтуе, прыходзьце да мяне сёньня ўвечары. Буду чакаць.

*Гроцкі.*

25

**Горад №. Кацярыне Макараўне Гроцкай**

Мяне перш дзівіла Ваша маўчаньне. Цяпер мне ўсё ясна і зразумела. Я не скажу, што я чакаў такога канца, але думка аб магчымасьці гэтага даўно ўжо жыла ва мне. Мяне часта забірала сумненьне: ці не памыліўся я ў Вас, ці не стварыў я сам сабе нейкую мару, якую па непаразуменьні злучыў з Вашай асобай?— Так яно й вышла.

Я сам ня ведаю добра, нашто я пішу Вам. Пэўна лішняе гэта. Але мне хочацца ўсё-ткі сказаць Вам колькі слоў, *апошніх* слоў. Эх, Каця, Каця! Як цяжка было мне, калі я ўзнаў і зразумеў, што памыліўся ў табе. Мне й цяпер яшчэ цяжка бывае часамі, калі старое ўспомніцца. Але я знаходжу ўцеху сабе ў безадхлыннай рабоце. Ды яшчэ часамі ў іншым у нечым. Хочаш, скажу?..—У абнімках жанчыны, якую завуць простытуткай. Ты, пэўна, моршчышся? Дарма, бо часамі простытуткі бываюць лепшыя за „сумленных" жанчын. Ды ўрэшце, хто разьбярэ, дзе канчаецца сумленная жанчына, а пачынаецца простытутка?..

Ну, годзе. У мяне ёсьць просьба да Вас. Апошняя просьба. Не завіце нідзе і ніколі сябе маёй жонкай, бо Вы ёй ніколі ня былі і ня будзеце.

1 ліпеня 19 г. *Гроцкі.*

26

**Гроцкаму**

Нікаю, як сабака, высалапіўшы язык. Здаецца, натрапіў на гарачы сьлед. Мой атрад удвая пабольшаў. Далучыліся хлопцы сялянскія. Не раўнуючы, як на ваўкоў вышлі з аблавай. Адным словам, прыяцель, усё добра. Так што скора зловім. А хітры, халера, як чорт...

*Мякуш Саўка.*

27

**Тэлеграма**

30-VI-19 N. Партком.

Становішча адчайнае кропка зьнімеце Гроцкага прымайце меры.

*Зянькевіч.*

28

**Тэлеграма**

3-VII-19. Чарняўка рэўком Гроцкаму.

Перадайце справы часова Зянькевічу прыяжджайце незабаўна N.

*Сакратар парткому (подпіс).*

29

**(У блёк-ноце Гроцкага)**

3 ліпеня 19 г. Зноў пішу. Зноў хочацца падзяліцца хаця з паперай сваймі думкамі. Тэ-

леграма з партко, у... Ці ехаць, ці не?—Не, тут, мусіць, непаразуменьне нейкае. У такі момант нельга пакідаць свайго месца. Я павінен быць тут, гэтага патрабуе справа. Ня йначай тут нечыя злосныя хітрыкі, бо ў апошнім даносе я добра выклаў сапраўдны стан воласьці і парткому павінна быць ясна, што я не магу цяпер выехаць адсюль. Трэба скарыстаць сучасны настрой сялянства, узрушанага супроць злачынцаў, каб ураз расправіцца з бандытызмам. Раптоўны выезд, замена старшыні Раўкому ў такі напружаны момант, бязумоўна, народзіць розныя чуткі і плёткі і шкодна адаб'ецца на справе. . . . . . .

. . . . . . . . . .

А дзіўна як складаецца жыцьцё! Ужо тыдзень, як я знаюся з Нінай. Ужо тыдзень, як я прыглядаюся да яе і знаходжу ў ёй усё больш і больш цікавага. Простытутка... Я-б не назваў яе так, мая мерка ня гэткая. Што-ж там, што жыцьцё, як кажуць, „распуснае“. Але хіба-ж можна назваць простытуткай таго, у кім так многа здаровых жывых парываньняў, у каго душа поўніцца такімі цэльнымі, такімі шчырымі пачуцьцямі?

Жыцьцё над ёй пасьмяялася, добра пакомчыла яе. Ня жыцьцё, а лад той злачынны стары. Яна адна з тых нездаволеных, злосных,

што поўны вострага магутнага протэсту, што гатовы гэты протэст абярнуць у гарачую ўпартую чыннасьць, у дзейнае парываньне. Яна прышла цяпер да нас. Я ня верыў адразу, мне сьмешна было. Цяпер ужо ясна мне, што яна сапраўды прышла. Прышла, бо зразумела, што яна—наша, што протэст яе—гэта наш агульны протэст, які выліўся ў рэволюцыю, што нездаволеньне яе—гэта адвечнае агульнае нездаволеньне ўсіх, каго ціснуў, ламаў стары лад.

Яна, відаць, кахае мяне. Сьмешна неяк—ні з таго ні з сяго... А я?—Мне з ёй лягчэй, я забываюся на тую. Я гавару з ёй, як з таварышом, і яна разумее мяне. З гэткай можна рука ў руку працаваць і змагацца. Гэткая ня здрадзіць... Цікава толькі, чым кончыцца гэта...

30

**Тэлеграма**

4-VII-19 N. Партком.

Стан справы не дазваляе выехаць зараз кропка падрабязна даносе.

*Гроцкі.*

31

**Камандзіру атраду т. Мякушу**

З гэтай запіскай прыдзе да цябе дзяўчына. Яна можа нам дапамагчы. Як—аб гэтым яна

сама раскажа. Памойму ёй можна даверыць. Як ты думаеш? Зірні на яе сваім сур'ёзным, жорсткім поглядам, знаеш, такім, як ты часам глядзіш на бандытаў, і твой інстынкт падкажа табе, хто яна й што. Прысылай спраўна даносы аб рабоце. Я ведаю, што ты ня любіш гэтага „пэцканьня паперы", але, братка, так трэба. Бывай!

*Старшыня Рэўкому Гроцкі.*

5 ліпня 19 г.

32

**Гроцкаму.**

Дзяўчыну тваю атрымаў у цэласьці. Глядзеў на яе больш, чымся ты загадаў, але, апрача вялізных чарнюшчых вачэй, нічога ня ўбачыў. Прыгожая дзеўка, дабро. І, здаецца, свая. Мы з ёй адразу зьнюхаліся. Атрад пасылаю ў мястэчка на чале з Кузьмёнкам. Будзем працаваць з дзяўчынай. Ты ня думай там абы-што... Ды не, ані ў зуб, цэлай астанецца. Як трэба будзе падмога, накажу. Аб усім, што ўзнаеш пра мяне, ані пісьні, бо сам ведаеш, адным словам—бывай!

*Мякуш Саўка.*

33

# Протокол

пасяджэньня N-га павятовага камітэту РКП(б) ад 8 ліпня 1919 г.

Слухалі:

II. Аб барацьбе з бандытызмам.

Дакладчык т. N. З кожным днём мы атрымліваем з Чарняўскае воласьці ўсё горшыя й горшыя весткі. Бандытызм расьце, ахапляе ўсё большы раён і пагражае перакінуцца ў суседнія воласьці. Сялянства спагадна адносіцца да бандытаў і варожа да ўлады. З офіцыяльных даносаў старшыні Рэўкому Гроцкага гэтага ня відаць, усе яны працяты оптымістычным настроем, але сябра таго-ж рэўкому т. Зянькевіч, стары надзейны партыец, і іншыя таварышы засыпаюць лістамі і тэлеграмамі аб крытычным становішчы ў воласьці і ўсе ў адзін голас тлумачаць гэта няздольнасьцю і няўмеласьцю Гроц-

Пастанавілі:

1) У другі раз прапанаваць т. Гроцкаму неадкладна здаць справы т. Зяньkевічу і зьявіцца ў партком.

2) Паставіць на від таварышу Гроцкаму яго недысцыплінаванасьць, якая выявілася ў невыкананьні загаду парткому.

3) Выслаць у Чарняўскую воласьць дадатковую вайсковую сілу.

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| кага. На тэлеграму, якою Гроцкі быў выкліканы сюды, ён адказаў вось як (чытае тэлеграму Гроцкага). Нам трэба дакладна абгаварыць гэта пытаньне, абмеркаваць усё і прыняць канчатковыя і самыя энэргічныя меры, бо . . . . . . . . . . . | |

34

**Тэлеграма**

9—VII—19 Чарняўка. Рэўком.

Высылаецца вайсковая дапамога кропка Гроцкаму здаць справы Зянькевічу і неадкладна зьявіцца партком.

*Сакратар парткому (подпіс).*

35

**Гроцкаму ўва ўласныя рукі**

Прысылай атрад у вёску Сёмкава сягоньня ўночы. Зрабі так, каб аб гэтым ня знаў ніводзін чалавек. Асабліва сьцеражыся Зянькевіча. Чаму—аб гэтым, пэўна, дазнаешся, як прачытаеш перасланую разам з гэтым запіску. Я выпадкова адабраў яе ў аднаго хлапца, які

адмовіўся даваць якія-б ня было тлумачэньні. Хлапца я здаў пакуль што ў Кудлатаўскі комбед, а запіску табе пераслаў. Прыгледзься да пісьма і параўнай яго з пісьмом некаторых нашых. Пакуль што—бывай. Чакаю людзей.

9—VII—19 г. *Мякуш Саўка.*

36

Сьцеражыся дзяўчыны, Нінай завуць, прастытутка. Яны апошні час з Гроцкім нешта вадзіліся і потым, здаецца, яна пашла ў атрад к Мякушу. Мей гэта на ўвазе. З Гроцкім хутка разьвітаемся, справа йдзе добра.

37

Добры дзень, Гроцкі!

Пішу табе з саменькіх лап зьвера. Цікава га? Я ў захапленьні проста, таму можа й лёгка мне граць сваю ролю. Каб ты ўбачыў мяне, якая я добрая артыстка. Я ня ведала, што маю такі талент. А што асабліва цікава, гэта тое, што гульня мая—гульня са сьмерцю. Так, жыцьцё маё, як кажуць, вісіць на валаску. Я бачу, што ён нібы трохі дагадваецца. Мо' гэта й ня так, але ўсё роўна: калі што, дык першая куля прызначана мне. І ведаеш, Гроцкі, я ані-ні не баюся. Я проста не пазнаю сябе. Мне так радасна, добра. У мяне-ж цяпер так

поўна, так многа чаго ў жыцьці. Цяпер мне ўсё асьветлена наперадзе.

Ты знаеш маё жыцьцё. Ты знаеш, што ў ім было трохі і пекных старонак. Праўда, яны разбаўляліся, гінулі ў агульнай цямноце, але-ж былі ўсё-ткі, як ні кажы. І вось я раўную цяпер самыя лепшыя часіны майго жыцьця з цяперашнім. Выходзіць, што там і сотае часткі ня было таго, што я цяпер адчуваю.

Адно кепска. Надта няпрыемна бывае, калі прыходзіцца з ім... ну, ты сам ведаеш што... Але й тут я нашла спосаб збаўленьня. Я, заплюшчыўшы вочы, уяўляю цябе, нібы ня з ім я, а з табой... Ты сьмяешся? Вядома, што сьмешна. Я-ж пішу табе так адкрыта аб усім, аб усім чысьценька. Ты ня злуй за маю балбатню, я-ж так даўно не гаварыла ні з кім папрыяцельску.

Цябе, можа, цікавіць, як ён да мяне? Мо' думаеш, ён закахаўся ў мяне? Ды не, тут прасьцей. Кожнаму зьверу самка патрэбна. Ну, а дзе-ж яе знайсьці? Як ты ведаеш, мы з ім раней сустракаліся і ён улічае мяне за звычайную простытутку.

Ну, дык вось, мой любы таварыш (выбачай, што назвала так), у мяне больш шансаў на тое, што мяне заб'юць. І нейкае дурацкае прачуваньне шэпча мне, што гэта будзе на-

пэўна. Мабыць, мы з табой ня сустрэнемся больш. Мне хочацца табе шчыра-шчыра падзякаваць, бо, як ні кажы, а праз цябе я знашла сабе шлях. І яшчэ адна просьба табе. Калі мяне ня будзе і калі ты ўспомніш часамі мяне, дык успамінай, як жанчыну, якая цябе моцна-моцна кахала. Ты паверыш цяпер, я знаю, бо маніць мне няма ніякага сэнсу. Ну, выбачай, таварыш, за гэту мімавольную сантымэнтальнасьць. Бывай!

*Ніна.*

38

**Тэлеграма.**

9—VII—19. N. Партком.

Заўтра выяжджаю кропка здаю Грышчанку

*Гроцкі.*

39

Сакрэтна.

**Час. камандзіру атрада Кузьмёнку.**

Загадваю зараз-жа арыштаваць сябра рэўкому Зянькевіча і трымаць пад надзейнай вартай да асобнага распараджэньня. Падрыхтаваць атрад да выступленьня сягоньня ўночы. Выхад атраду з мястэчка павінен прайсьці няпрыметна. Аб часе выступленьня я дам загад асабіста. Я буду знаходзіцца з атрадам.

*Старшыня рэўкому Гроцкі.*

9—VII—19 г.

40

**У N-ю павятовую надзвычайную камісію.**

Разам з гэтым перадаецца на Ваша распараджэньне правадыр шайкі бандытаў Заслаўскі і 15 яго таварышоў згодна прыкладзенага сьпісу, забраныя ўночы з 9 на 10 ліпня ў в. Сёмкаве. Падрабязнасьці забраньня бандытаў у даносе камандзіра атраду т. Мякуша. Адначасна перадаецца быўшы сябра вал. рэўкому Зянькевіч, які накрыты ў здрадзе і зносінах з бандытамі, што відаць з прыкладзенай пры гэтым запіскі, якая напісана, відочна, яго рукой. У мясцовай ячэйцы атрыманы толькі што неофіцыйныя весткі, якія прымушаюць сумнявацца ў яго сапраўднай належнасьці да РКП(б).

*Час. старшыня Чарняўскага рэўкому Грышчанок.*

№ 179.
10 ліпня 1919 г.

41

(З газэтнае хронікі)

**Ліквідацыя банды Заслаўскага**

9 ліпня г. г. ў в. Сёмкаве, Чарняўскай воласьці, атрадам па змаганьні з бандытызмам злоўлен правадыр шайкі бандытаў Заслаўскі і яго 15 таварышоў. Падрабязнасьці забраньня бандытаў вось якія:

За тры дні да гэтага ў банду пранікла пад абліччам простытуткі адна мясцовая дзяўчына, якая сышлася з Заслаўскім і ўвашла ў курс жыцьця банды. Узнаўшы, што Заслаўскі рыхтуецца ўночы на 10 ліпня даведацца ў в. Сёмкава, дзяўчына паведаміла аб гэтым мясцовы рэўком. У тую самую ноч у в. Сёмкава быў выслан атрад, які абкружыў хату, дзе быў Заслаўскі, і пасьля ўпартага адпору з боку бандытаў яны ўсе былі забраны, апрача трох, забітых на месцы. Сам Заслаўскі забраны жывым, але цяжка паранены. З боку атраду—пяць паранены і тры забіты. Сярод забітых—старшыня мясцовага рэўкому т. Гроцкі. Таксама забіта й тая дзяўчына, якая была з бандытамі і выдала іх.

Злоўленыя бандыты накіраваны ў надзвычайную камісію, якой цяпер вядзецца сьледзтва з мэтаю выкрыцьця рэшты ўдзельнікаў банды.

42

N-скі павятовы партыйны камітэт з жалем паведамляе аб гэройскай сьмерці, на фронце барацьбы з бандытызмам старшыні Чарняўскага рэволюцыйнага камітэту

**Ігната Рыгорава Гроцкага.**

1

Жвіроўскі-бацька і Жвіроўскі-сын.

У Жвіроўскага-бацькі нос высах ад раньняе старасьці, і на твары, шызым ад куца падстрыжанай шэрсьці, ён выдаецца навіслым карчом, пераплеценым сінімі жылкамі-пруцьцем. На самым канцы заўсёды трасецца бліскучая кропля.

У Жвіроўскага-сына нос ня высах—зайстрыўся ад раньняй дзіцячай гароты, ад думак цяжкіх нядзіцячых. На сінім змарнелым тварыку ён выдаецца недалужна-ўзьнятай птушынаю дзюбкай. І ня кропля, а заўсёды пацёкі пад носам. І не трасуцца, а плывуць з настойнай павольнасьцю.

Жывуць Жвіроўскія на Завальным завулку ў той старэнькай хацёнцы, што сьлепа касурыцца вокам крывым з карузлага бруднага садзіку, што ўзьляглася трухлявым тулавам на кастылі—падпоркі лабатыя.

У хацёнцы адзін цямнявы пакой, у пакоі—цямнявым і брудным - раскіданы роілам рэчы, грамозьдзяць пакой няпрытульным халодным бязладзьдзем. На бруднай, гадамі нямытай падлозе стаіць і ляжыць такое начыньне:

1) Гарнушкі для стравы;

2) Апоркі;

3) Падтопа;
4) Чайнік;
5) Труба пабітая ад грамафона;
6) Сноп спарахнелай саломы;
7) Цэбар;
8) Конь паломаны (цацка);
9) Рознае сьмецьце.

Чапяла, вілкі і качарга стаяць, дружна стуліўшыся, у чорным кутку каля печы.

У гэтым пакоі праходзіць-паўзе жыцьцё двух Жвіроўскіх: Жвіроўскага-бацькі і Жвіроўскага-сына.

Калісьці даўней (і цяпер таксама, але ў думках толькі туманна-цягучых Жвіроўскага-бацькі) было іначай, было так...

На сурдуце—бліскучыя гузікі, на шапцы—кукарда. У гузіках і кукардзе ідзеш па завулку з асаблівай паважнасьцю, бо суседзі пазіраюць з пашанай, бо ў сустрэчных твары палахліва сур'ёзяцца або растаюць ветлай усьмешкай. Так ідзеш, бывала, са службы. А дома прыстойнай і гладкай плыньню цячэ сямейнае шчасьце. Жонка—руплівая, слухмяная гаспадыня, ціхія далікатныя дзеці, канапа мяккая. І грамафон пасьля полудню, задорна-віsклівы ёкат—романсы Вяльцавай.

А мо' й ня было гэтага? Мо' гэта старчыя сны толькі турбуюць нутро малюнкамі пекны-

мі? Памяць у Жвіроўскага-бацькі ўжо высыхае памяць дрэнна ўжо служыць. Сьціраюцца межы-граніцы паміж успамінаў жывых і туманна-ружовых мар лятуценьняў.

Ці было, ці ня было... Ці бачыў, ці сьніў...

Добра помніцца во што.

Стаў непарадак. Непарадак гэты звалі словам, якое палохала сваёй страшэннай навізнай, сваёй жудаснай незразумеласьцю. Слова—рэволюцыя. Непарадак адабраў у Жвіроўскага жонку, канапу, Вяльцаву і бліскучыя гузікі. Асталася хацёнка трухлявая на Завальным завулку і асталася навекі ў нутры турботная едкая злосьць.

А непарадак астоіўся ў новы парадак—у дзіўны, чужы. Асеў гэты новы парадак, разгарнуўся чужым сумятлівым жыцьцём, сьціснуў Жвіроўскіх у хатцы старэнькай, у няпрытульным брудным пакоі.

Так і жывуць. Трудна сказаць, адкуль дастае стары Жвіроўскі сабе і сыну свайму на пражытак. Мабыць, яшчэ прадае, што дасюль не прададзена?

Раніцой, толькі золак засьцеле цьмянай сівізнаю вокны; Жвіроўскі-бацька пачынае бубнець, гутарыць з сынам. Ён добра ведае, што сын ня слухае, што сын яшчэ соладка сьпіць, але ўсё роўна гаворыць—цягне цяжкім адна-

тонным голасам, вядзе бясконцую гутарку, навучае сына, як трэба жыць, як сьцерагчыся нядобрых людзей, як ладзіць з начальствам, з старэйшымі.

О, Жвіроўскі прашоў даскaнала навуку жыцьця. Ён цяпер ведае ўсё і ён не дапусьціць, каб сын яго трапіў на нядобрую сьцежку, не дапусьціць, каб ён спазнаўся з злымі людзьмі і паддаўся іх ашуканству. Ого, ім толькі гэтага й трэба, яны толькі й чакаюць, каб узьбіўся які неразумны хлапец, каб ашукаць яго, адабраць апошні грош, сарочку з цела садраць. О, трэба ўмець, як з імі жыць, абыходзіцца. Стары Жвіроўскі век пражыў, ведае ўсё.

І гаворыць-гаворыць бясконца Жвіроўскі. І вусны яго, аброслыя куца падстрыжанай шэрсьцю, крыва шаволяцца, тонка падцягваюцца таёмнай едкай усьмешкай.

Гаворачы, ён падтапляе печку, чысьціць бульбу, гатуе сьняданьне. Потым будзіць сына. Каб разбудзіць, ён не аклікае яго, ня кратае, а толькі мацней заводзіць гаворку. У сына тады пачынае блытацца, сплятацца ў адну нясуразную муць зьявы дзівосныя сну з шэрымі зрыўкамі вобразаў думак, роджаных бацькавай гутаркай. Але, нарэшце, бацька нешта пытаецца. Сын толькі чуе апошняе:

— Га?

І, расплюшчыўшы вочы, дапытліва глядзіць на бацьку шырокім нярухомым поглядам.

Бацька заводзіць сваю бясконцую гутарку. Сын млява пацягваецца і напранаецца.

Так пачынаецца дзень двух Жвіроўскіх.

Удзень сына няма—ён ходзіць у школу. Удзень Жвіроўскаму-бацьку няма з кім гутарыць, і ад гэтага цяжка стаўпляецца злосьць у нутры і не сядзіцца на месцы. Тады Жвіроўскі пачынае гаспадарыць. Ён зьдзявае сваю старую падзьдзёўку і содзіць на нос акуляры. Ён кожны дзень правіць падзьдзёўку і кожны дзень знаходзіць у ёй новыя дзіркі. Такі ўжо парадак.

І яшчэ ёсьць работа ў Жвіроўскага. У фанэрнай скрынцы з-пад мыла складзена вопратка. Там, на саменькім дне, пад кучай рознага рызьзя, ляжыць тужурка з бліскучымі гузікамі. Жвіроўскі часамі яе выцягае і сядзіць над ёй гадзінамі цэлымі, шукае раней не заўважаных дзірачак, старанна іх зашывае, загладжвае. А то яшчэ возьме анучку і чысьціць бліскучыя гузікі. Ад чыстага бляску іх у Жвіроўскага плавае мокрая ўсьмешка на вуснах і масьляцца вочы ўбогай давольнасьцю.

Над тужуркай Жвіроўскі ўспамінае. Над тужуркай у тумане старых вачэй пасьцілаюцца

пекны я ўзоры мінулага і ў іх так прыемна, так соладка распускаецца жорсткі ком засохлай сьвядомасьці.

І гладзіць тады Жвіроўскі тужурку, з пяшчотай гладзіць, з ласкай, быццам прад ім жывое стварэньне—роднае й блізкае.

І тады сьціраюцца межы-граніцы паміж успамінаў жывых і туманна-ружовых мар-лятуценьняў.

І невядома тады:

Ці было, ці ня было... Ці бачыў, ці сьніў...

А трэцяй гадзіне (роўна а трэцяй) прыходзіць са школы сын. Палуднуюць моўчкі. Бацька жыдка-віхлясты погляд упінае ў міску і аднамерна размашыста цьмякае. А сын есьць марудна, спыняецца. Яго скруглёны дзіцячымі марамі погляд—туды, за акно палунаў, распусьціўся ў бялясым прасьцягу сьвежага дня.

Мо' гэты прасьцяг кліча яго да сябе, у сваё шырокае, вольнае ўлоньне? А мо' змарыўся проста хлапец, дык нязмога павесьці вачмі, адарвацца ад сьветлае плямы вакна...

Пасьля полудню бацька крэкча, бурчыць і кладзецца на ложак. Сын прыбірае стол, раскладае кнігі і сшыткі і вучыць лекцыі. У пакоі тады плыве нуднай патокай ціша (бацька, як сьпіць, не храпе) і, як хвалькі гэтай цішы, шалясьцяць маўклівыя кніжкі ў руках Жвіроўскага сына.

У час пасьля полудню, калі так глуха зьвісае навокал ціша, калі асьцярожны бацькаўскі посьвіст снуе мяккую пялёнку спакою, Жвіроўскі-сын аддаецца сваім дзіцячым думкам-развагам. Гэты час здаецца яму нечым празрыстым і вязкім, нейкай шырокай густой паласой, у якой так павольна і мякка купаюцца вобразы-думкі, у якой сам увесь расплываешся, пераліваешся ў плаўна-цягучыя мары.

Кніжкі спакойна ляжаць на стале. Пальцы мякка цярэбяць старонкі. А вочы—застыглыя, ціхія плывуць сваім бляскам празрыстым туды, за вакно, дзе шырокі прасьцяг, дзе халодна-глыбокія сьвежыя далі.

Аб чым можа думаць, аб чым можа марыць хлапец у дванаццаць гадоў? От, сьцелюцца й сьцелюцца сьмелыя вобразы, пішуцца хварбай шырокай малюнкі жыцьця нязнанага, чароўнага сваёй глыбокай нязбытнасьцю.

Ён ужо вандраўнік, ужо бродзіць па дзікіх гушчарах адвечных лясоў, жыве сярод лютых зьвярэй, вядзе з імі бойку. Вось ужо з тыграй лютай сустрэўся. Ашчэрыўся страшны разьюшаны зьвер, выгінаецца гібкім спрунжынавым целам, во-во гатоў кінуцца. Але-ж у яго добрая спадзейная стрэльба ў руках. Стрэл—і валіцца зьвер, недалужна рычыць, аблівае крывёй расьліны зялёныя.

І ўздыхае вольна Жвіроўскі-сын, быццам сапраўды мінуў небясьпеку і, зморшчыўшыся, выцірае пад носам пацёкі назольлівыя.

Потым ён правадыр, вядзе за сабой мільёны паўстанцаў. Ён абуран страшэннай адвагай, ён цьвёрды, як камень, яго ўсе слухаюць, ён аддае мудрыя загады, іх выпаўняюць з маўклівай павагай. І вось—бой. Ліецца кроў, грымяць гарматы, прылятаюць на конях з даносамі, ён сам на кані, на гарачым, буяным стаеньніку. Вось націскаюць ворагі, сярод паўстанцаў спалох, сумятня. Ён кідаецца наперад, сам уразаецца ў гушчу ворага. Усе сьмялеюць, запаляюцца адвагай, усе за ім, у вапошнюю напружную бойку.

І—перамога.

І зноў вольна ўздыхае Жвіроўскі-сын, зноў выцірае пацёкі.

І чуе, як суха кашляе бацька на ложку, як варочаецца, крэкча.

Вымятаюцца ўраз палахлівыя мары, пальцы нэрвова хапаюць за кніжку. На твары нуда расплываецца кіслай грымасай.

Пачынаецца вечар.

Увечары будзе самае прыкрае. Будзе бацька лекцыі пытаць, будзе глядзець жорсткім чакаючым поглядам, папраўляць па кніжцы суха і рэзка. І будзе гаварыць яшчэ, пазіраючы на

сына з апаскай затоенай, што ў кніжцы пішацца так, а сапраўды вось так, што напісалі кніжку бальшавікі, што ня трэба ім верыць, а гаварыць ўсюды трэба, што вeрыш... І будзе чакаць тады сын, калі ў бацькі твар затрасецца ад злосьці на гэтых бальшавікоў, і замітусяцца жыдкімі вострымі аганькамі цьмяныя вочы. Будзе чакаць, бо знае, што тады прычэпіцца бацька к яму і балюча будзе цягаць за вушы.

А кончыцца вечар доўгім дакучным маленьнем. Будуць стаяць поплеч у змрочнай чырвані лампадкі двое Жвіроўскіх. І будзе сын, шаволячы вуснамі, пазіраць скоса на бацьку, будзе думаць аб тым: чаму гэта бацька, як моліцца, дык падцягвае вусны і няпрыемна так шчэрыцца, быццам усьміхаецца нечага едка і прыкра.

І будзе чакаць, пазяхаючы, сын, ці скора бацька кончыць маленьне, каб легчы хутчэй і яшчэ хоць трошку, хоць поўгадзінкі памарыць.

## II

Бывае так, што адна і тая самая думка гадуецца доўга ў двух чалавек—уцішку, затоена, і баіцца, ня важыцца кожны сказаць другому аб ёй, зацікае яе ў самы глыбокі куток істоты свае, беражэ, як патаёмную нейкую схову.

І бывае потым, што думка гэта раптам сама па сабе высклізае на поверх і робіцца простай, звычайнай. Бывае тады адзін момант, што зьвязвае думка гэта двух чалавек блізкасьцю шчырай, саграваe цёплай сяброўскай лучнасьцю.

Бывае гэты момант прыгожы і шчасны.

Так гадавалася думка адна ў двух Жвіроўскіх.

---

Маладое сэрца Жвіроўскага-сына на волю ірвалася. Душыў шэры гнёт жыцьця нуднага, жыцьця тупога й вузкага, як сьляпая нара. Нязбытныя мары—далёкія, як небасхіл, як ружовыя цені вячэрняй зары, цягнулі некуды, пенілі ў сэрцы дзіцячым шчымлівыя няясныя парываньні.

Нязбытныя мары, далёкія... Яны толькі акраса, толькі ружовы сьвет, у які можна на час акунуцца, каб аквяціць хоць у думках, хоць на момант адзін шэрасьць жыцьця.

А хочацца часам бліжэйшага нечага. Хочацца, каб у жыцьці было трохі пярэстасьці, каб не драўляная гэтая аднастайнасьць заўсёды, штодня. Хочацца сьмеху, песень хоць трошку. Каб вырвацца на часінку з-пад бацькавай волі—цяжкай, жалезнай—быць такім, як іншыя дзеці, як большасьць дзяцей.

У школе Жвіроўскі ад усіх стараніцца, у

школе няма ў яго блізкіх сяброў. Прыдзе і заб'еццa ў куток свой, стуліцца, сьцісьнецца, як птушанё адзінотнае, і пазірае нясьмела водзіць спалохана востранькім носам, дзюбкай птушынай.

У школе заўсёды поўна жывога дзіцячага тлуму. Сплятаецца ў бязладзьдзе дружнае звон галасоў—сьмелых і рэзкіх, працятых сьвежым задорам дзяцінства вольнага.

Гоман, піск, сьмех, песьні. І ўсё—абрыўкамі ўзмыўнымі, усё—выбухі, узьлёты напорнай бурлівасьці маладога жыцьця.

Жвіроўскаму тлум гэты сэрца сьціскае. Жвіроўскаму ён спакуса вечная, цяжкая, нявымоўная спакуса. Часамі ледзьве стрымаецца, каб ня ўбіцца ў гурму дзяцей, каб ня зьліць свой ціхенькі слабенькі голас з гэтай пярэстай жывой сумятнёй. Хочацца-ж і яму гэтага звону бязрупатнага. Хочацца-ж і яму хоць трошачку сьмеху, хоць трошачку песень. І падмывае нешта ўнутры, і цяжка ўседзець на месцы—у куточку сваім. І тады сэрца даўка сьціскаецца, а ў носе востра ўзьнятым, у дзюбцы птушынай, пачынае шчыпаць нешта, сьлёзы на вочы балюча выціскаць.

Тады скрозь зацятую злосьць, скрозь шчымлівую боль унутры праразаюцца жорсткім рыпеньнем сухія бацькавы словы.

— Трымайся сам па сабе, ня зводзься ні з кім, кампанія да дабра не давядзе. Сыйдзешся з імі, яны і падвядуць цябе, ашукаюць. Ім што, яны выкруцяцца, чыстымі выйдуць адусюль. А ты і ўліпнеш, як мухіна ў цеста. Не глядзі, што яны дружакі такія...

Разам з сухімі жорсткімі словамі выплывае злосны і едкі бацькаў твар, ашчэраны дзікай усьмешкай-грымасай.

Страшна Жвіроўскаму, што бацька агідным здаецца, што злосьць на яго мімаволі ўціскаецца ў сэрца. Гоніць тады, як мага гоніць вон з галавы спакусныя думкі, сілком прымушае сэрца радзіць пачуцьцё адданай пакорнасьці. Шэпча настойна, упарта, каб заглушыць іншыя думкі, іншыя словы:

— Татачка... татачка... Даруй мне... Я буду слухаць... Я ня буду крыўдзіць цябе...

І нецярпліва чакае, ахмелены тлумам, зьбянтэжаны роілам думак напружных, каб хутчэй кончыліся заняткі, каб ня было ўжо ні тлуму таго, ні звону дзіцячага, каб пабегчы, сьціснуўшы сэрца, да бацькі і стуліцца ў норцы сваёй, забыцца на ўсё, толькі ўцішку, няпрыметна для ўсіх, пацяшаць сябе глыбока-нязбытнымі марамі.

---

Думка тая прышла к Жвіроўскаму-сыну сьперш, як далёкая палахлівая мара. Прышла

ў той дзень, як было нейкае рэволюцыйнае сьвята, як разам з бацькам хадзіў ён па вуліцы і з захапленьнем углядаўся смаглымі вачмі ў чырвоныя сьцягі, у бліскучыя трубы оркестраў, у стройныя рады людзкога натоўпу, як піў нутром усім песьні бадзёрыя—звонкія і шырокія, як бязьмежны прастор.

Бацька бурчэў тады, але цішэй, як звычайна, і голас яго быў убогі, сіпучы—слабы ў злосьці бясьсільнай.

Сын тады бацьку ня слухаў. Сын думаў сваё. Сын марыў аб нязбытным, аб немагчымым і разам такім простым, даступным, марыў аб чырвоным гальштуку.

О, каб узнаў тады бацька сынавы думкі!

Вось з таго часу гальштук чырвоны закрасаваў у ваччу Жвіроўскага-сына, стаў яго марай таёмнай, нясьмелай. Ужо ў час пасьля полудню ён не брадзіў па дзікіх зарасьлях лесу адвечнага, не змагаўся з зьвярмі крыважэрнымі, а з чырвоным гальштукам на шыі, з радасным боем у грудзёх, хадзіў у стройных радох піонэраў, пад задорны ядраны гул барабану, пад сьпевы бязьмежна-шырокія, вольныя.

А з часам прыгледзеўся,—і мара зрабілася думкай, настойным замерам.

Толькі баяўся, ня важыўся сказаць аб ёй

бацьку, хаваў яе ў самым глыбокім кутку істоты свае, бярог, як патаёмную нейкую схову.

---

А ў Жвіроўскага-бацькі іначай было.

Жвіроўскі-бацька ўзгадаваў тую думку з болем, з шчымлівым турботным страхам.

Жвіроўскі-бацька думаў часамі аб долі свайго сына, і яго старое счарсьцьвелае сэрца балюча зьнібела трывогай. Трывога была чорнаў поўная жудасьці, бо цёмна было ўсё, гублялiся думкі ў няясным, няведамым. Бо тое, што разьвівалася вокал, што абкружала новым, чужым—толькі агульны тупы спалох наганяла, сьціскала колам варожым, у якім ня бачыў стары Жвіроўскі выйсьця, не знаходзіў месца свайму слабенькаму сыну.

Зьнібела сэрца чорнай трывогай, трывога пераходзіла ў страх. А страх зьвінаўся ў пэўную думку, і гэта жорсткая думка душыла нутро сваёй цьвёрдай, халоднай няўхільнасьцю.

Загіне сын. Напэўна, загіне. Ня хопіць сілы ў яго, каб знайсьці сабе месца сярод сучаснага сьвету, у якім поўна бязбожных жулікаў, у якім на кожным кроку натрапіш на злосьнікаў лютых.

Ня знойдзе сын сабе месца, не... Загіне, напэўна...

А мо' будзе іначай... Мо' пойдзе сын на ня-

добры шлях, сам такім зробіцца, як усе тыя. Забудзецца й на бога й на бацьку, страціць сумленнасьць.

О, гэта будзе самае горшае. Пры думцы аб гэтым у бацькі старога загараюцца вочы цьмяным злосным агнём, і трасецца, віхляецца аброслы падстрыжанай шэрсьцю твар. А вусны падцягваюцца, крывяцца дзікай усьмешкай-грымасай.

Хай лепш загіне, хай лепш памрэ.

Калі гняце старога Жвіроўскага страх, калі шчыміць у сэрцы трывога за сына ён пачынае маліцца. Ён доўга стаіць тады на каленях, корчыцца, хліпае ў малельным экстазе, плача бяз сьлёз. Сьлёз няма—старасьць высушыла. Толькі сударгай моршчыцца твар ды нейкі ком горла сьціскае.

Просіць Жвіроўскі ў бога, каб научыў, надаўміў, што з сынам рабіць.

Муляць калені худыя, ломіць сухая сярэдзіна, у вачох пачынае дрыжэць цьмяны Езусаў-твар. І мяшаецца шчыры малельны настрой з бясьсільнай старчаскай злосьцю. І плача ўжо, хліпае не ад гарачай набожнай чуласьці, а ад гэтае злосьці едкай, турботнай.

А трывога ня гіне. Трывога гняце, труціць сэрца. Быццам на сэрца капаюць нейкія кроплі гаручыя і ўпіваюцца, колюць, атрутную пену ўздымаюць.

Потым, сустрэўшыся з сынам, бацька Жвіроўскі доўга і ўпарта ўглядаецца, сочыць за ім насарожаным вокам. Глядзіць, ці ня ёсьць у сыне зьмена якая, ці ня прынёс з сабой сын чаго новага адтуль, ад таго чужога, варожага. І некаторы час здаецца няшчырым, падробленым ціхі слухмяны погляд сына, здаецца, што ёсьць ужо нешта ўнутры ў яго, толькі хавае ён, тоіцца.

Знаў, адчуваў сваім хваравітым інстынктам бацька-Жвіроўскі, што калі-ні-калі, а ўсё роўна ўбачыць ён у сыне сваім гэта страшнае, новае, чаго так баіцца ўбачыць. Знаў і дрыжэў, і нецярпліва, настойна шукаў якога выйсьця, шукаў спосабу ратаваць свайго сына.

Адразу спалохаўся быў Жвіроўскі стары, як гэты спосаб мігнуў у думках ценем няясным. Хацеў адагнаць, зьнішчычь зародак дзікае думкі. Але мімаволі стаў расьці, разьвівацца гэты зародак, і вырасла думка - выразная, ясная.

З воўкам жыць, павоўчу выць.

Увесьці самому сына ў іх хэўру. Увесьці і навучыць, як „з воўкам жыць, павоўчу выць“. Цяпер, пакуль жыў ён яшчэ, пакуль ёсьць яшчэ сілы сякія-такія, ён здолее сына ўтрымаць у межах патрэбных, зможа прывучыць яго быць падвойным—у іх такім, як яны, а тут такім, якім хоча бацька бачыць яго, якім быў і астаўся сам бацька.

Няхай сабе будзе там ня сумленным бязбожнікам—іначай месца ня знойдзе ў іхным жыцьці, іначай загіне. А тут, уцішку, яны разам удвух будуць маліцца, будуць замальваць бога, каб прасьціў ім абодвум гэты міжвольны грэх.

Вырасла думка і захапіла істоту Жвіроўскага-бацькі. Спачатку страшэнная, дзікая—з часам стала простай, звычайнай, стала настойным замерам.

Толькі баяўся казаць аб ёй сыну. Баяўся, каб не падумаў той часам, што здаўся бацька стары, каб не зразумеў сын іначай бацькаву думку.

І хаваў Жвіроўскі-бацька думку гэту ў самым глыбокім кутку істоты свае, бярог, як патаемную нейкую схову.

---

Быў у Жвіроўскіх адзін такі момант, калі ўзгадаваная кожным з іх думка раптам, сама па сабе, высклізнула наповерх і для абодвух стала простай, звычайнай. І зьвязала гэтая думка двух чалавек блізкасьцю шчырай, сагрэла цёплай сяброўскай лучнасьцю.

Быў гэты момант прыгожы і шчасны.

Было гэта ўвечары. Жвіроўскі-сын згатаваў у ваблезлым чайніку чай. У запэцканай мухамі пушцы з надпісам „какао Жорж-Борман“

было два агрызкі цукру. Бацька і сын пілі чай з цукрам.

Ад чаю цяплынь расплывалася, саграваѓа пакой мяккай прытульнасьцю. Было ласкава на душы ў абодвух Жвіроўскіх, было цёпла на сэрцы. Бацька з сынам завялі ціхую гутарку. Сын апавядаў пра вучэньне, пра школу, пра настаўнікаў, бацька распытваў, цікавіўся. Бацька успамінаў даўныя-даўныя часы, калі ён вучыўся ў школе, калі й ён жыў такімі інтарэсамі.

У гутарцы сын памянуў піонэраў. Між іншым неяк сказаў:

— Піонэрам—тым добра. Яны ўсюды ходзяць, на сходках на розных бываюць, на гуртках. Яны больш чаго знаюць за іншых...

Бацька спаволі паставіў на стол недапітае блюдца, выняў з роту недассаны кавалак цукру й спытаўся.

— А калі вышэй куды пастуціць, ці лягчэй піонэраў прымаюць?

— Вядома, лягчэй... А з піонэраў у комсамольцы перавядуць, дык комсамольцаў усюды першых прымаюць.

— А ў гуртках чаму навучаюць гэтых піонэраў?

— Усяму. Ёсьць спортыўны гурток. Гімнастыку робяць. Кажуць, мацней чалавек ад гэтага робіцца. Прыгожа так, калі пачнуць вырабляць розныя штукі.

Бацька задумаўся, змоўк. Сын таксама. Усплыло паміж іх нешта напятае, вострае і жывое, што вымагала выказу нейкага, што цяпер ужо, у гэты момант, не магло астацца затоеным.

Сын проста, нібы аб звычайнай якой дробнай справе сказаў:

— Я-б дужа хацеў паступіць у піонэры.

Ён ня бачыў, што ў бацькі нэрвова дрыжэла ў гэту часінку шчака. Ён не глядзеў на бацьку, адвёў свой шырокі марудны погляд у бок. Але чуў, што бацька ня лаецца, што ня злуе нават. І яму было добра зусім, ён быў спакойны.

Тады бацька сказаў:

— Я ўжо троху думаў аб гэтым. Яно й праўда, ня шкодзіла-б.

І тож зусім проста вышла ў яго, быццам гаварыў аб звычайнай якой дробнай справе.

У гэты момант можа больш, як калі, Жвіроўскі-сын пачуў свайго бацьку. Яго сэрца растапілася жаркай пяшчотай, хацелася ў гэты час прыгалубіць старога бацьку, пацалаваць у шызы, аброслы падстрыжанай шэрсьцю, зморшчаны твар.

Ён радасна бліскаў сьветлымі вачмі, заўзята шморгаў вострым носам, дзюбкай птушынай, і лапатаў жвава аб тым, як будзе добра яму,

як будзе весела, калі ён паступіць у піонэры.

Бацька спыніў яго.

— Толькі во што, сынок. Паступаць ты паступай, але будзь асьцярожны... Не паддавайся на іхныя штучкі. Глядзі, каб не ашукалі цябе.

І Жвіроўскі-бацька пачаў навучаць свайго сына, як трэба трымацца яму ў піонэрах, як захаваць сумленнасьць, набожнасьць сваю і г. д.

Жвіроўскі-бацька бурчэў, Жвіроўскі-сын ня слухаў нічога. Яму ўсё-роўна, ён згодзен на ўсё, будзе рабіць усё-чыста, як бацька гаворыць.

У яго будзе чырвоны гальштук.

Ён будзе хадзіць у стройных радох пад дружныя песьні, пад звонкі, задорны гул барабана.

Што яму больш яшчэ трэба?

III

Жвіроўскі-сын прышоў са школы ў чырвоным гальштуку. Першы дзень у чырвоным гальштуку... Як-жа тут не задраць у гару вострый нос, як-жа ня чмыхнуць лішняга разу, не падсярбнуць задорна пацёкаў з-пад носу!

Жвіроўскаму-бацьку чырвоны гальштук на тонкай худзенькай шыі сына няпрыемна, балюча вочa ўкалоў. Ён паглядзеў скосу на гальштук, і яго зморшчаны твар раптам затросься. Скрывіўшы вусны нядобрай усьмешкай, ён па-

дышоў да сына і дрыжачымі пальцамі зьдзеў з сынавай шыі чырвоную стужку.

— Ня трэба тут... Там насі сабе, колькі хочаш, а тут, у хаце маёй, я недазволю.

Сын няўцямна зірнуў на бацьку. У вачох у яго бліснулі сьлёзы. Глядзеў на бацьку, ня зводзіў вачэй, быццам чакаў яшчэ нечага. А ў вачох дрыжэла сьлязьмі маўклівая горкая крыўда, і скрозь яе—тонкія голачакі злосьці.

Бацька схаваў гальштук у фанэрную скрынку з-пад мыла, дзе было складзена рознае рызьзе, дзе на саменькім дне ляжала тужурка з бліскучымі гузікамі.

— Нічога, пасьпееш. Наносішся...

Сын не сказаў нічога. Моўчкі сеў за стол, моўчкі стаў палуднаваць. А як пасьля палудню бацька заснуў, сын асьцярожна падкраўся пад ложак і выняў з скрынкі чырвоную стужку. Ён сеў з ёй к акну, глядзеў на яе, любаваўся. І стала спакойна, ня было ўжо крыўды, ня было злосьці.

— Хай сабе. Ня ўсё-роўна? Абы там, у школе, у горадзе...

У той вечар ён добра адказаў бацьку лекцыі і перад сном шчыра маліўся за сябе, за бацьку, за піонэраў.

Назаўтра ўраньні бацька аддаў сыну чырвоны гальштук, а сын прышоўшы са школы, сам вярнуў яго бацьку назад.

Так і пашло з таго часу.

---

Разгарнулася шумам зялёным вясна.

Была вясна цёплая, ясная.

Ахінула вясна прыроду ўрачыстасьцю сьвежай, паслала па сьвеце дыван хараства маладога.

Разгарнулася вясна Жвіроўскаму-сыну. Павясялела жыцьцё, аквяцілася. Далучыўся—чэзлы, слабенькі—да маладой ядранай руні—і сам зарунеў, сам сокам сьвежым набраўся.

І не пазнаць стала хлапца. На твары—чырвань, на вострым носе, на дзюбцы птушынай, вяснушка ў капейку асела. Вочы—ня вочы, а зайчыкі гарэзныя, спрытныя.

Ходзіць Жвіроўскі-сын на спорт, на гурткі, сьпявае песьні вясёлыя, сьмяецца сьмехам звонка-рассыпчастым—сапраўдным, поўным сьмехам дзяцінства.

А дома Жвіроўскі-сын так, як раней. Дома сьлізкі віхлясты погляд Жвіроўскага-бацькі заўсёды блукае, сочыць за сынам. Прыглядаецца бацька да сына, быццам наскрозь яго праціснае, нутро ўсё хоча ўбачыць. Баіцца стары, каб ня згубіць роднага сына, каб не папусьціць яго ў лапы злосных варожых людзей.

І адчувае стары, з страхам, з трывогай нямой адчувае, што робіцца нешта ў сыне, што ня той ужо ён. І напружвае сілы свае, каб ня

выпусьціць з рук, каб затрымаць, захаваць хлапца ў спрадвечных дзядоўскіх звычаях, у набожнай строгай сумленнасьці.

Жвіроўскі-сын прынёс новыя прыгожыя кніжкі. Кніжкі заўсёды ляжалі пярэстым стройным грудком на вакне. Ляжалі ціха, спакойна,—нібы-та што. А Жвіроўскаму-бацьку яны здаваліся чымся жывым і калючым, як вожык. Бачыў ён у пярэстым стройным грудку нешта злосна-чужое, варожае, бачыў пагрозу едкую ў чырвані вясёла-размалёваных вокладак, у страшнай незразумеласьці новых нячуваных слоў.

Лёг невялічкі ціхі грудок бярэмем цяжкім на сьвядомасьць Жвіроўскага-бацькі, прыціснуў страхам тупым, нямою трывогай. Лез невялічкі ціхі грудок востра-назольлівай плямай у вочы старыя, балюча калоў сваім маўчаньнем затоеным. Турбаваў, жыцьця не даваў Жвіроўскаму-бацьку.

І нешта раз, топячы печку, стары Жвіроўскі спаліў сынавы кніжкі. З зларадаснай дзікай усьмешкай на зморшчаным твары чакаў, калі вернецца сын.

Сын прышоў і спытаўся:

— Татка, дзе мае кніжкі?

Бацька жыдкім віхлястым поглядам поўзаў па цёмным кутку. Блукала на твары зларадасна-дзікая ўсьмешка.

— Няма кніжак. Малы ты яшчэ, каб чытаць іх.

Вышла так, што зірнуў пасьля гэтага бацька на сына, і тая дрэнная, дзікая ўсьмешка, зларадаснасьць тая маўклівая—з кніжак варожых, з успамінаў аб іх, аб расправе над імі, супроць волі самога Жвіроўскага-бацькі пераняслася на сына, на атарапелую постаць яго, на едка-чырвоны гальштук на шыі.

У вадказ вочы Жвіроўскага-сына зайстрыліся тонкімі голкамі злосьці.

І быў у тую хвіліну бацька ворагам сыну, а сын ворагам бацьку.

Гэта быў пачатак. З таго часу так і пашло. З таго часу паміж двух Жвіроўскіх прашла глухая шчыліна і расла з кожным днём, і глыбела, разьзяўлялася чорным непераступным бяздоньнем.

Бацька яшчэ пільней стаў прыглядацца да сына, сачыць за кожным крокам яго, выпытваць аб усіх драбнотах яго жыцьця за парогам хаты.

Мукай нясьцерпнай былі для Жвіроўскага-сына вечары, калі ня было ніякіх сходаў, заняткаў, калі трэба было сядзець дома, у брудным пакоі, адзін на адзін з сухім, злосна-настарожаным бацькам. У гэтыя вечары садзіўся бацька за стол супроць сына і пачынаў жорсткі свой допыт.

Ня было ўжо цяпер у старога Жвіроўскага руплівай бацькаўскай трывогі, ня было і страху за сына, за яго долю. Пытаўся для таго, каб злавіць на чым-небудзь, каб знайсьці прычэпку якую і потым піліць, упікаць, мучыць бясконца сваёй буркатнёй—зьвягаю злоснай. Хацелася цяпер, прагна хацелася выпытаць у сына што-небудзь такое, што-б падагрэла злосьць у старых нячулых грудзёх, што-б дало магчымасьць едка ўскіпець старому шчарсьцьвеламу сэрцу.

І калі мучыў ён сына, калі бачыў, як маўкліва й балюча набягаюць сьлёзы на крыўдай працятыя сынавы вочы, станавілася лягчэй сэрцу старому, была на душы дзікая нечалавечая давольнасьць. Было гэта так мо' затым, што паступова злучыўся ў цяжкім уяўленьні вобраз сына з вобразам таго чужога, варожага, што сьціснула колам глухім, што адабрала некалі жонку, канапу й бліскучыя гузікі.

А сын стуляўся, хаваўся ў маску глухой затаёнасьці, паказваў бацьку свайму толькі маўкліва-напятыя вочы, у якіх скрозь сьлёзы крыўды нямой прабіваліся часам вострыя тонкія голачкі злосьці.

Ня было ўжо ў сынавым сэрцы адданай пакорнасьці, ужо скрозь панавала ў ім сьціснутым комам агіда—цяжкая, шчымлівая, шаваліла-

ся чорнай гадзюкай варожасьць. Ужо ў часе вячэрняй малітвы Жвіроўскі-сын не маліўся за бацьку, не прасіў даравацъ думак нядобрых пра бацьку. У дрыготна-чырвонай цішы, стоячы на каленях перад змрочным панурым Езусам, Жвіроўскі-сын думаў аб тым, як, што зрабіць, каб пазбыцца ад вечных бацькавых зьдзекаў. І карабатая, быццам мохам чорным аброслая постаць, што нязграбна кленчыла поплеч, здавалася чужой, незнаёмай, быццам нейкім дзіўным выпадкам сышліся, сустрэліся і некаторы час церпяць адзін аднаго.

Так не магло доўга цягнуцца. Так было цяжка, нязносна абодвум. І чулі абодва, што прыдзе нейкі канец. Ня зналі—які, але чулі і чакалі яго. Бацька з трывогай тупой, а сын з палахлівай надзеяй, з туманнай радасьцю.

---

Блішчэла ў той час сонцам і радасьцю лета. У сонечнай радасьці пералівала сумятнёй квяцістай маладое жыцьцё. Было ў ім поўна задору моцнага, сьвежага, поўна размаху шырокага. Захапляла гэта жыцьцё, цягнула ў сваё бурлівае ўлоньне ўсё маладое, здаровае, усё, у чым клякоча крыніцай рунёвы ядраны сок.

Жвіроўскі-бацька пачаў біць Жвіроўскагасына. Ён біў ня так, як звычайна б'е бацька непаслухмянага сына. Ён біў з асаблівай зьвя-

рынай жорсткасьцю, знаходзіў у гэтым сабе здаволеньне бруднае, дзікае. Ён перастаў гаварыць, перастаў весьці сваю бясконца-цягучую буркатню. Ён маўчаў увесь, у маўчаньні зьбіраў злосьць, каб выліць яе ў жорсткіх зьдзеках-пабоях.

Сын пачаў ня прыходзіць да хаты. Сыну хата стала турмой, стала катаргай. Сын аддаўся цалком сумятні пярэстай жывога жыцьця. Прыходзіў дамоў толькі нанач. Прыходзіў з тупым адчаем, з затоенай глуха ў дзіцячым сэрцы варожасьцю. Ішоў і знаў, што зараз бацька зашчэпіць дзьверы, возьме хлудзіну якую і пачне біць. Біць будзе доўга, бо сын ня хоча плакаць, а сьціснье зубы ад болю і маўчыць. Будзе біць, пакуль усё-ткі сын не заплача. А сын заплача не ад болю, боль ён можа стрымаць,—заплача ад злосьці бясьсільнай, ад таго, што сілы няма, што ня зробіш нічога. І яшчэ ад таго, што доўга ўжо, жудасна доўга б'е разьюшаны бацька.

І вось прышоў, нарэшце, канец.

Канец быў такі.

Прышлі нешта раз да Жвіроўскага-бацькі і сказалі, што ён ня мае права біць свайго сына. Жвіроўскі-бацька нічога не адказаў, толькі ўсьміхнуўся таёмна і злосна. Потым сядзеў на ложку і нешта шаптаў, часамі нэрвова ўздрыгваючы і крывячы ў дзікую ўсьмешку-грымасу

свой шызы, аброслы куца падстрыжанай шэрсьцю, зморшчаны твар.

На полудзень прышоў сын. Прышоў, як за звычай, цёмны, насуплены. З-пад зьведзеных броў палахліва блішчэлі вострыя вочы, вочы загнанага зьвярка.

Бацька, як сына ўбачыў, адразу затросься, зашамаў бязгучна дрыжачымі вуснамі. Хацеў нешта сказаць, хацеў закрычаць, але замест гэтага вырваўся толькі дзікі зашчэмлены віск.

Ён кінуўся к сыну, схапіў сваімі касьцянымі пальцамі сына за вуха, вывеў моўчкі з хаты і з усёй сілы штурхнуў за вароты. Сам вярнуўся ў хату, зашчапіў дзьверы і сеў зноў на ложку—чорны, страшны, як нейкая дзікая крыважэрная птушка.

Сын адразу сьцяміў, у чым тут справа.

Ён пастаяў часінку на месцы, зірнуў, вока прыжмурыўшы, на пякучае яснае сонца, падшмаргнуў разы са два носам і пашоў па завулку, адважна махаючы левай рукой, задраўшы задорна ўгару востры нос—дзюбку птушыную.

Пашоў расказаць у сваім піонэрскім атрадзе, як выгнаў яго несьвядомы, політычна-адсталы бацька.

Так разлучыліся двое Жвіроўскіх.

Жвіроўскі-бацька і Жвіроўскі-сын...

**Кнігі таго-ж аўтара.**

1) У віры жыцьця—апавяданьні. БДВ. Менск 1925 г. Ц. 1 р. 50 к.

2) Пела вясна—апавяданьні выд. ЦБ Маладняка 1925 г. Ц. 20 к.

3) Пад сонцам—апавяданьні—БДВ. Менск 1926 г. Ц. 50 к.

4) Голы зьвер—аповесьць—БДВ. Менск 1926 г. Ц. 35 к.

# ЗЬМЕСТ.

*Стар.*

1. 42 докумэнты . . . . . 3
2. Двое Жвіроўскіх . . . . . 39

---

